# ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

1.11.12-7.11.12 г.



## УКРАІНСКІЯ ВЫБАРЫ



ПА БЕЛАРУСКАМУ СЦЭНАРУ

СТАР. 4–5

## “РЭЖЫМНЫЯ” КАНІКУЛЫ



Ў БЕЛАРУСКІХ ШКОЛАХ

СТАР. 6-7


# $1,5 МІЛЬЯРДА ЯК “КВЕТАЧКІ”

**Як стала вядома агенцтву «Прайм», Масква прапанавала Мінску вярнуць у расійскі бюджэт паўтара мільярда долараў. Менавата ў такую суму Расія ацэньвае страты ад «растваральнага» бізнесу.**




*Хэлоўін можа прыйсці і беларускаму рублю, і не толькі яму*

## ВЯРНУЦЬ – І КРОПКА!

Прычым, такая «заманлівая» прапанова прагучала падчас перамоваў наконт умоваў пастаўкі нафты ў Беларусь у чацвёртым квартале 2012-га і ў 2013 годзе. «Расія прапанавала вярнуць у расійскі бюджэт пошліны, недаатрыманыя ад экспарту з Беларусі растваральнікаў, разбавіцеляў, змазачных матэрыялаў і г.д.», – заявіла агенцтву «Прайм» крыніца ў органах дзяржкіравання.

Як паведамляе БелПАН, віцэ-прэм'ер РФ Аркадзь Дварковіч 26 кастрычніка заявіў, што Расія і Беларусь абмяркоўваюць аб'ёмы паставак нафты на 2012–2013 гады ў звязцы з рашэннем праблемы экспарту беларускім бокам растваральнікаў. «Прадмет перамоў – аб'ёмы паставак нафты ў гэтым і наступным годзе, якія ўмовы для гэтага павінны быць выкананы, перш за ўсё якім чынам неабходна памяняць нарматыўную базу, каб не паўтараліся тыя праблемы, якія былі сёлета па пастаўках так званых растваральнікаў», – сказаў Дварковіч.

> «Менавіта цяпер беларускі рубель перажывае далёка не лепшыя часы, і практычна ўсе незалежныя эканамісты гавораць пра непазбежную дэвальвацыю нацыянальнай грашовай адзінкі калі не ў гэтым годзе, то дакладана ў наступным».

Самае цікавае ў гэтай сітуацыіі час, калі былі агучаны прапановы расійскга боку, вельмі падобныя да ўльтыматыму. Менавіта цяпер беларускі рубель перажывае далёка не лепшыя часы, і практычна ўсе незалежныя эканамісты гавораць пра непазбежную дэвальвацыю нацыянальнай грашовай адзінкі калі не ў гэтым годе, то дакладана ў наступным.

Кошты на хлеб, малако і гарэлку істотна выраслі. І высвечваецца тэндэнцыя далейшага павышэння сацыяльна значных цэн.

## РАСІЙСКІ АПЕТЫТ НА ЛАСЫЯ КАВАЛКІ НАШАЙ УЛАСНАСЦІ

Дык ці можна лічыць выпадковай расійскую прапанову па вяртанню 1,5 мільярда долараў у бюджэт Расійскай Федэрацыі?

Вось што на гэта кажа эканаміст Міхаіл Кулеш:

– Для расійскага бюджэту 1,5 мільярда долараў гэта не сума. Тым больш, калі гаворка ідзе пра «братэрскую» Беларусь. Праўда, мяркуючы па ўсяму, сваімі апошнімі паводзінамі Крэмль паказаў, што бачыць у Беларусі менавіта і толькі малодшага «брата», выдаючы сябе адпаведна за старэйшага.

*Заканчэнне на стар. 3*

НАВІНА

# НА ТРЫ ПАЧКІ КАШЫ

**З 1 лістапада бягучага года ў чацвёрты (і апошні на сёлета) раз павысіцца памер дапамогі сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей ва ўзросце да 3 гадоў.**

Павелічэнне складзе 4,3%, або 36 160 рублёў. На гэтую суму шчаслівыя бацькі змогуць набыць, напрыклад, 3 пачкі дзіцячай кашы беларускай вытворчасці.

Дапамога з надбаўкай 75% складзе 1,540 млн рублёў, з надбаўкай 40% — 1,234 млн рублёў. Штомесячная дапамога па доглядзе дзіцяці старэй за 3 гады, па звестках Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, будзе роўная 440 020 рублям.

Нагадаем, што памер дапамогі на дзяцей ва ўзросце да 3 гадоў сёння роўны памеру бюджэту пражытачнага мінімуму і пераглядаецца раз у квартал. У перыяд з 1 жніўня па 31 кастрычніка ён складаў 843 870 рублёў.

Таксама з 1 лістапада вырасце і памер пенсій: у сярэднім яны павялічацца на 14%. Так, паведамляе БелТА, сярэдняя пенсія па ўзросце складзе 1 млн 964,3 тыс. рублёў.

**ВІКТОРЫЯ ПРАКАПОВІЧ**

# ШТО СТАІЦЬ ЗА ЭМІГРАЦЫЯЙ САННІКАВА?

Былы палітвязень, экс-кандыдат у прэзідэнты Беларусі Андрэй Саннікаў атрымаў палітычны прытулак у Вялікабрытаніі. Чаму ён вырашыў з'ехаць з Беларусі, і што з гэтага атрымаецца, аналізавала "Тут і цяпер".



*Шлях эміграцыі заўсёды цяжкі...*

**ВАЛЯНЦІН АКУДОВІЧ, ФІЛОСАФ:**

### "ЁН ВЯРТАЕЦЦА ДА СВАЁЙ РАНЕЙШАЙ РОЛІ".

- Што тут казаць? У гэтым плане Саннікаў мне нагадвае Аляксандра Казуліна, які пасля турмы адсланіўся ад актыўнай палітычнай дзейнасці. Напэўна, зняволенне робіць нейкія зрухі ў светаглядзе. Я не думаю, што гэта звязана з бояззю наступных рэпрэсій. Там, напэўна, ёсць час падумаць, ці вартае тваё жыццё, якога не так ужо і шмат засталося, такому спосабу яго пражывання. Напэўна, адбываюцца глыбокія духоўныя змены. Але, зрэшты, не хацеў бы займацца спекуляцыямі. Нічога большага за ад'езд тут не стаіць. Наколькі я ведаю Саннікава, ён, можа, досыць актыўна будзе займацца справамі Беларусі. Гэты палітык быў не зусім у сваёй ролі, калі вылучыў сябе на кандыдаты ў прэзідэнты. Пра гэта сведчыць тое, што ён не рабіў такога крока ў папярэднія гады. Хаця такая магчымасць была і раней. Хутчэй за ўсё, ён вяртаецца ў звыклы для сябе стан кіраўніка арганізацыі "Еўрапейская Беларусь". Вяртаецца да сваёй ранейшай ролі, якая, на мой погляд, была яму найбольш натуральная. У нас няма палітыкі. У нас ёсць змаганне да згубы свайго жыцця.

**ЮРЫ ХАШЧАВАЦКІ, КІНАРЭЖЫСЁР:**

### "АНДРЭЙ НЕ СЫХОДЗІЦЬ У ЦЕНЬ".

- Тут цэлая гама пачуццяў. З аднаго боку вялікая палёгка. Бо я разумею, што Андрэй, як і Іра, знаходзіцца ў вельмі небяспечным становішчы. І тое, што ён застаўся там, паляпшае іх пазіцыі. Гэта цалкам відавочна. Проста бяспека паляпшаецца. Гэта першае, галоўнае пачуццё. Другое пачуццё, канечне, падобнае з тым, што пісала Калінкіна. Што сапраўды, на жаль, мы не абаранілі яго. Як не абаранілі Статкевіча, Дашкевіча, Аўтуховіча. Я ўсіх проста не магу пералічыць. Пад словам "мы" я маю на ўвазе грамадства беларускае. Вельмі сумна. Праўда, ёсць у гэтым пэўная нагода для аптымізму. Таму што Андрэй мае аўтарытэт сярод многіх заходніх палітыкаў. І я ўпэўнены ў тым, што ён не спыніцца. І відавочна, хутка мы будзем сведкамі таго, што на Захадзе узнікне вельмі сур'ёзны беларускі цэнтр. Такое мог бы зрабіць у свой час і Пазняк. Але ў Зянона, на жаль, не было ні жадання, ні магчымасці наладзіць кантакты з заходнім палітычным істэблішментам. Ён з імі пачаў змагацца. Зрэшты, па многіх пазіцыях, можа, і правільна. Але тут жа ідзе размова пра тое, каб здолець развярнуць сітуацыю ў бок беларускіх інтарэсаў. А такі прафесійны дыпламат, як Андрэй, на гэта здольны. І ў гэтым сэнсе я аптыміст. Таму, што палітыка, як горная рака. Калі яна цябе ўжо падхапіла, то будзе несці і несці. У выніку можна выплыць на вялікія прасторы.

**УЛАДЗІМІР МАЦКЕВІЧ, ФІЛОСАФ:**

### "ХАРТЫЯ" ПАЎТАРЫЦЬ ЛЁС КХП-БНФ".

- Мяркуючы па тым, што зараз імкнуцца казаць пра гэта ягоныя паплечнікі Бандарэнка і Радзіна, Саннікаў мае намер застацца ў палітыцы. Але ж мець намер і застацца – гэта розныя рэчы. Пазняк калі з'ехаў, таксама думаў застацца ў вялікай палітыцы. Ён нават намінальна застаўся старшанёй КХП-БНФ. Але ад гэтага партыя ўсё больш і больш губляе уплыў і вагу ў палітыцы. Думаю, што тое самае чакае і "Хартыю".

**СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ, ПЕРШЫ КІРАЎНІК НЕЗАЛЕЖНАЙ БЕЛАРУСІ:**

### "ТРЭБА ПАГЛЯДЗЕЦЬ І ЗНАЙСЦІ ЛІДЭРА".

- Ягоны ад'езд я успрыняў з вельмі сумным пачуццём. Да гэтага часу я ведаў, на каго можна працаваць. І ніякага сумневу ў мяне не было ні па адной пазіцыі. Ні па прыстойнасці, ні па адукаванасці, ні па чалавечнасці. Ні па чым. Мы перажылі з ім розныя ўзаемаадносіны. Але я пераканаўся, што Саннікаў – выключна станоўчая з'ява. А цяпер я не ведаю, як гэта каментаваць. Зламала яго турма. Катаванні і маральныя, і фізічныя. У мяне такое адчуванне, што ў яго не хапіла сіл больш з гэтым змагацца. Мне вельмі шкада. Але зразумець яго можна. І апраўдаць можна. Цалкам. Пасля турмы я з ім сустрэўся, і мне здавалася, што ўсё ідзе ў належным накірунку. Што ён аднаўляецца, вяртаецца на свае папярэднія пазіцыі. Сумна. Я маю надзею, што сустрэнуся з ім у замежжы.

Але ж кажуць так - паміраць сабраўся, але жыта сей. Таму трэба паглядзець і знайсці лідэра.

**АПЫТАННЕ ПРАВЁЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**

**З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ**

**Лідэр «Еўрапейскай Беларусі», экс-кандыдат у прэзідэнты, былы палітвязень заявіў пра пагрозу паўторнага арышту.**

«Для мяне гэта было нялёгкае рашэнне. Але, паверце, іншага выйсця не было. Зноў падвяргацца катаванням і здзеку ў турме, ці сядзець «цішэй вады, ніжэй травы». Я быў і застаюся беларускім палітыкам. Буду працягваць даносіць праўду пра маю краіну і дамагацца таго, каб былі прыняты канкрэтныя меры дапамогі дэмакратычнай Беларусі. Лічу, што маё рашэнне дапаможа рэальнаму вызваленню маёй жонкі і сына, якія знаходзяцца ў закладніках у рэжыму Лукашэнкі», - заявіў Андрэй Саннікаў у інтэрв'ю charter97.org.

# $1,5 МІЛЬЯРДА ЯК “КВЕТАЧКІ”

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

Думаю, за расійскай «своечасовай» прапановай вярнуць паўтара мільярда долараў стаіць абсалютна празрыстае жаданне нарэшце прыдбаць на прымальных умовах самыя ласыя кавалкі беларускай уласнасці – нафтаперапрацоўчыя заводы, МАЗ, БелАЗ і што вельмі істотна, «Беларуськалій». Напомню, што толькі апошні штогодна дае беларускаму бюджэту, па розных ацэнках, тры мільярды долараў...

Пэўна, гэта выдатна разумеюць і беларускія ўлады. Але апошнія цяпер значна абмежаваныя ў манеўрах на перамовах з расійскім бокам. Калі для апошняга $1,5 мільярда дробязь, то для цяперашняй беларускай эканомікі, якая перажывае далёка не лепшыя часы, гэта вельмі істотная сума.

**Як лічыць Кулеш, у выпадку продажу гэтых прадпрыестваў расіянам мы патрапляем ад іх у эканамічную залежнасць назаўсёды. І тады 1,5 мільярда долараў, якія ненавязліва прапануюць вярнуць у расійскі бюджэт, пададуцца «кветачкамі».**

Звычайна Аляксандру Лукашэнку ўдавалася вырашаць эканамічныя спрэчкі з Масквой на сваю карысць. Але пэўна цяпер гэта будзе зрабіць вельмі цяжка...

## МІЖ ТЫМ

Прыблізна месяц таму беларускі прэм’ер Міхаіл Мясніковіч заверыў расійскіх партнёраў, што экспарт растваральнікаў і разбавіцеляў з краіны цалкам спынены. І маўляў, больш гэтага не паўтарыцца. Беларускія ўлады спадзяюцца, што пастаўкі нафты ў Беларусь з Расіі ў 2013 годзе складуць 23 мільёна тон. У той жа час расійская кампанія «Транснафта» прапаноўвае скраціць пастаўкі да 14-18 мільёна тон.

**ВІКТАР АЛЯШКЕВІЧ**

# ЛЁС ХІМІЧНАГА ГІГАНТА

**"Тут і цяпер" вырашыла пацікавіцца, што думаюць на гэтым прадпрыемстве наконт магчымай здзелкі аб продажы кампаніі расійскаму хімічнаму гіганту.**

## НА АВАНСЦЭНЕ "СІБУР ХОЛДЫНГ"

Напомнім, што Расія патрабуе ад Беларусі разлічыцца за "растваральнікавыя" схемы. 1,5 мільярдаў долараў, якія, па звестках неназванай крыніцы, хоча спагнаць Расія ў свой бюджэт, прыйдзецца, хутчэй за ўсё, аддаваць. І без продажу маёмасці тут не абысціся.

Ананімная крыніца агенцтва "Прайм" у дзяржаўных органах Расіі адзначыла, што Расія мае намер спагнаць з Беларусі 1,5 мільярда долараў мытных пошлін у лік страт, якія панёс расійскі бюджэт у выніку рэалізацыі Беларуссю "растваральнікавых схем". Ад таго, ці заплаціць Беларусь, залежыць лёс будучых паставак нафты.

Як адзначыў у каментары Gazeta.ru эканаміст Антон Платаў, лішніх 1,5 мільярда долараў у Беларусі няма. І, паводле яго меркавання, Беларусі давядзецца расплачвацца з Расіяй прамысловымі актывамі. У якасці




*“Магілёўхімвалакно” пакуль не стала першым прададзеным “фамільным срэбрам”.*

найбольш верагоднага "тавару" Платаў назваў вядучае беларускае прадпрыемства "Магілёўхімвалакно", якое ў найбліжэйшы час могуць прадаць расійскаму "Сібур холдынгу".

"Вас дэзінфармавалі. Ні пра які продаж "Магілёўхімвалакна" "Сібуру" размова не ідзе", – адзначыла крыніца "Тут і цяпер" на прадпрыемстве.

Разам з тым яна заявіла, што менеджары "Сібуру" працуюць на "Магілёўхімвалакне" ў рамках рэалізацыі інвестыцыйнага праекта. Які праект рэалізоўваецца на прадпрыемстве, крыніца не ўдакладніла.

Неабходна адзначыць, што яшчэ ў 2009 годзе "Сібур холдынг" і "Магілёўхімвалакно" праводзілі перамовы аб стварэнні сумеснай вытворчасці па выпуску тэрафталевай кіслаты. Кошт праекта ацэньваўся ў 213,5 мільёна долараў. Аб тым, ці быў рэалізаваны гэты праект, не паведамлялася.

Акрамя "Магілёўхімвалакна", "Сібур" праяўляў цікавасць да іншых нафтахімічных актываў. У прыватнасці, кампанія называлася ў якасці магчымага пакупніка бабруйскай "Белшыны" і светлагорскага "Хімвалакна".

Набыццё "Сібурам" "Магілёўхімвалакна" было б лагічным крокам з боку расійскай кампаніі: гэта дазволіла б "Сібуру" пашырыць сваю прысутнасць на расійскім рынку.

**“Вас дэзінфармавалі. Ні пра які продаж "Магілёўхімвалакна" "Сібуру" размова не ідзе", – адзначыла крыніца "Тут і цяпер" на прадпрыемстве”.**

## ЗА БОЛЬШ-МЕНШ ПРЫМАЛЬНЫ КОШТ

Разам з тым продаж магілёўскага прадпрыемства не дапаможа беларускаму ўраду вырашыць пытанне са здабыццём 1,5 мільярда долараў. Так, акцыянерны капітал магілёўскай кампаніі складае 650,5 мільярда рублёў, што крыху больш за 76,5 мільёна долараў. Нават калі дапусціць, што рынačны кошт прадпрыемства дасягне 200-300 мільёнаў долараў, давядзецца прадаць яшчэ некалькі прадпрыемстваў.

Зыходзячы з чаканняў беларускага боку, найбольшыя надзеі ўскладваюцца на продаж дзяржаўнага пакета кампаніі МТС за больш-менш прымальны кошт. 2 лістапада адбудзецца прэзентацыя, падчас якой дзяржава зноў прапануе інвестарам свой пакет акцый за 1 млрд долараў. Відавочна, што гэта завышаны кошт. І не выключана, што дзяржаве прыйдзецца саступіць $200–300 мільёнаў, каб атрымаць хоць якія грошы за названае прадпрыемства.

Для расійскага боку найбольш прывабнымі выглядаюць найперш вытворчыя актывы. Гэта, канечне, "Беларуськалій" (на яго продаж дзяржава пойдзе ў самым крайнім выпадку), "БелАЗ", "Гродна Азот" і іншыя. Аднак верагоднасць дасягнення дамовы па гэтых актывах нашмат меншая, чым у выпадку з тымі прадпрыемствамі, якія маюць патэнцыяльнага пакупніка. Таму, калі і казаць аб продажы "фамільнага срэбра" расійскім інвестарам, то прыглядацца варта менавіта да гэтых кампаній.

**МІХАЛ ВЯЗЫНСКІ**

# БЕЛАРУСКІЯ ЎКРАІНСКІЯ

Хто сказаў, што Украіна – не Беларусь? Прабыўшы чатыры дні парламенцкіх выбараў у Кіеве, разумееш, што выбары ў іх, вядома, ёсць. Але Украіна ўпэўнена рухаецца па сцэнарыі Беларусі. Прычым сама таго не заўважаючы.



Не да смеху было падчас парламенцкай кампаніі ва Ўкраіне

## ВЫБАРЫ ЯК ДЭЖАВЮ

Параўноўваючы працэс парламенцкіх выбараў ва Украіне 28 кастрычніка і беларускіх выбараў 23 верасня, адчуваеш нешта накшталт дэжавю. Здаецца, што недзе ўсё гэта ўжо было. У экспертаў – адны і тыя ж заявы з адных і тых жа нагод.

Размаўляем з кіраўніком незалежнай медыяпрафсуполкі Украіны каардынатарам праекта "Майдан-маніторынг: выбары-2012" **Юрыем Луканавым** за дзень да пачатку галасавання. І нечакана ён заяўляе: "Выбары ўжо сёння можна лічыць несвабоднымі і несправядлівымі". Чаму? Аказваецца, тэрытарыяльныя і акруговыя камісіі былі сфарміраваны непразрыста. "У нас прадстаўнікі партый трапляюць у камісіі ў выніку лёсавання. Лёсаванне павінна

> "Вось табе і на! У Беларусі тое ж самае, толькі ў вялікіх маштабах. Ва Украіне камісіі сфарміраваны без удзелу прадстаўнікоў некаторых апазіцыйных палітычных партый, а ў нас — без усіх апазіцыянераў".

праводзіцца па кожнай камісіі асобна. Замест гэтага ўлады правялі лёсаванне па ўсіх разам. У выніку прадстаўнікі партый **"УДАР"** і **"Свабода"**, якія маюць шанс патрапіць у парламент, не атрымалі ў выбарчых камісіях ні аднаго месца", – кажа Луканаў.

Вось табе і на! У Беларусі тое ж самае, толькі ў вялікіх маштабах. Ва Украіне камісіі сфарміраваны без удзелу прадстаўнікоў некаторых апазіцыйных палітычных партый, а ў нас – без усіх апазіцыянераў.

Акрамя таго, адзначыў Луканаў, кіруючая Партыя рэгіёнаў павялічыла свае прадстаўніцтва ў камісіях за кошт адміністрацыйнага рэсурсу. "Напрыклад, членаў камісій у нас вылучаў Саюз анархістаў. Ад яго ў камісіі ўвайшлі не члены арганізацыі. Калі пачалі разбірацца, то аказалася, што старшыні гэтага Саюза спіс людзей спусцілі "зверху" непасрэдна прадстаўнікі ўлады і запатрабавалі вылучыць у камісіі гэты спіс", – паведаміў каардынатар праекта па назіранні за выбарамі.

Нічога не нагадвае? Наш ЦВК увесь час казаў, што прадстаўнікі партый у камісіях прысутнічаюць. Усялякіх "праўладных камуністычных", сацыяльна-спартыўных і рабоча-сялянскіх. На паперы ўсё нармальна, на справе – не вельмі.

Луканаў заяўляе, што гэта было зроблена для фальсіфікацыі пратаколаў галасавання. У Беларусі апазіцыя таксама заяўляла пра тое ж самае: падкантрольныя камісіі патрэбны для фальсіфікацыі пратаколаў.

У заключэнне Луканаў паведаміў, што выказаў сваё меркаванне ў Бруселі: вынікі фарміравання выбарчых камісій не дазваляюць казаць аб тым, што выбары з'яўляюцца свабоднымі і справядлівымі. Аб тым жа самым заявіла (і зноў жа – задоўга да выбараў!) апазіцыя Беларусі.

У дзень галасавання некаторыя ўкраінскія вобласці масава захварэлі і масава "выклікалі" скрыні для галасавання дома. Назіральнікі зафіксавалі факты "каруселяў", агітацыі ў дзень выбараў, – увогуле, усяго, на што "хварэюць" і беларускія выбары.

## СМІ

Украінскія СМІ ў большасці сваёй "жавалі тую ж гумку", што і беларускія дзяржаўныя тэлеканалы. Як кажа **Вікторыя Сюмар** з Інстытута масавай інфармацыі Украіны, вядучыя тэлеканалы казалі пра ўладу як пра нябожчыка: альбо добра, альбо нічога. Крытычныя матэрыялы пра яе ў эфір практычна не выходзілі.

Вікторыя падкрэсліла, што такой прапагандай улада проста адбіла ў большасці разумных людзей жаданне ісці на гэтыя выбары. "Акрамя таго, на нашых тэлеканалах не было ніякай інфармацыі, накіраванай на актывізацыю насельніцтва; не тлумачылася важнасць выбараў; не было інфармацыі аб тым, што яны праходзяць; не было папулярызацыі выбараў. Усё заганяла прапаганда", – адзначае Сюмар.

Такая ж сітуацыя мела месца і ў Беларусі. Аб выбарах – нічога, а Лукашэнка з тэлевізара не вылазіў.

Адзінае адрозненне: ва ўкраінцаў пакуль што ёсць магчымасць купляць рэкламны час на тэлебачанні і ўдзельнічаць у тэледэбатах. Але і тут не ўсё гладка. Сюмар адзначае, што некаторыя тэлеканалы так захапіліся рознабаковай "заказухай", што ледзь ці не пераcталі працаваць наогул.

Што ж да працы журналістаў наогул (не толькі на выбарах), то і тут Украіна ўпэўнена даганяе Беларусь. Як сказаў Юрый Луканаў, ва Украіне ўсё часцей паўтараецца тыповы беларускі сцэнарый: журналістаў і фотарэпарцёраў затрымліваюць, ламаюць ім тэхніку, разбіваюць тэлекамеры. "Прычым, усё часцей гэта робяць не супрацоўнікі міліцыі, а нейкія "невядомыя людзі ў цывільным". Іх усе ведаюць, але аспрэчыць такія дзеянні практычна немагчыма: міліцыя адмаўляецца ўзбуджаць на гэтых людзей крымінальныя справы, – нібыта засведчыць іх асобу не ўяўляецца магчымым", – кажа Луканаў.

## ГРАМАДСТВА МАЎЧЫЦЬ "ЗА СТАБІЛЬНАСЦЬ"

"Стабільнасць" – вось тое слова, якое так турбуе, калі яго ўжываюць ва Украіне. Неаднаразова даводзілася чуць, што стабільнасць лепш узрушэнняў, што на выбарах павінна быць усё спакойна. І там, у большасці сваёй, становіцца "спакойна".

Аўтарытэтны ўкраінскі сацыёлаг **Ірына Бякешкіна** яшчэ напярэдадні выбараў заявіла: яўка на галасаванне складзе каля 60%. "Грамадства зняверыліся ў палітыцы як такой. Раней, калі ва ўладзе былі "аранжавыя", іх прыхіль-

# ВЫБАРЫ

нікі расчараваліся ў іх палітыцы, затое надзеі на лепшую будучыню мелі "блакітныя". Цяпер ва ўладзе "блакітныя", якія таксама не прынеслі нічога добрага, і людзі расчараваліся ў палітыцы наогул", – сказала Бякешкіна.

Яна таксама адзначыла: большасць украінцаў лічаць, што іх голас будзе скрадзены, сфальсіфікаваны альбо нічога не будзе вырашаць. Ну зусім як у нас.

## АЦЭНКА ВЫБАРАЎ

Выбары Украіны, як свабодныя і транспарэнтныя, прызнала назіральная місія СНД.

Парламенцкія выбары-2012 ва Украіне сталі рэгрэсам у параўнанні з выбарамі 2006–2007 гадоў. Пра гэта падчас прэс-канферэнцыі заявіў кіраўнік місіі ENEMO ва Украіне Піцер Навотны. Раней Навотны пацвердзіў словы Луканава, адзначыўшы, што падлік галасоў акруговымі камісіямі ажыццяўляецца "вельмі непразрыста".

## ПАКУЛЬ ШТО НЕ ЎСЁ...

Зрэшты, не ўсё так дрэнна. Пакуль што ва Украіне хоць лічаць галасы, прыслухоўваюцца да меркавання сусветнай супольнасці і даюць працаваць назіральнікам. Пакуль што не забараняюць пікеты, хоць у дзень выбараў і былі забаронены ўсе масавыя мерапрыемствы ў Кіеве, за выключэннем, вядома, святкавання вызвалення Украіны ад фашызму, што мела месца акурат 28 кастрычніка. Пакуль што не саджаюць агітатараў супраць партыі ўлады, хаця дваіх маладых людзей, якія агітавалі за байкот, затрымала міліцыя і спрабавала пасадзіць за "супраціў міліцыі".

Пакуль што ва ўкраінскі ЦВК можа акрэдытавацца любы журналіст, і ў яго не пытаюцца акрэдытацыю пры МЗС, як у нас. І пакуль што можна свабодна гаварыць пра свае прыхільнасці і антыпатыі – табе за гэта нічога не будзе. Але гэта толькі пакуль што. Калі ўкраінскае грамадства будзе маўчаць, яно пакоціцца па беларускай дарожцы. І для гэтага ёсць усе падставы.

## ПАСТСКРЫПТУМ

Практычна ўсе ўкраінскія эксперты, адзначаючы такія сістэматычна падобныя на беларускія сітуацыі, казалі пра тое, што Украіна ўсё ж такі не Беларусь. Украіну, маўляў, ратуе тое, на што гэтыя ж эксперты наракалі гадоў гэтак 15 назад, – алігархія. Маўляў, украінскія алігархі не зацікаўлены ў беларускім шляху развіцця, паколькі бачаць у Еўропе вялікія рынкі, вялікія выгады і не дапусцяць таго, каб Украіна ператварылася ў ізаляваную ад Еўропы Беларусь.

Хацелася б папярэдзіць украінцаў: гэта да тых часоў, пакуль Януковіч не зразумеў, што эканамічнаму супрацоўніцтву з Еўропай зусім не перашкаджае дыктатура. Вось у Беларусі – дыктатура. І што? Па даных Нацыянальнага статыстычнага камітэта, тавараабарот Беларусі з краінамі Еўрасаюза ў студзені-жніўні 2012 года павялічыўся ў 1,27 разу і склаў 19 млрд 602,1 млн долараў. Экспарт павялічыўся ў 1,41 разу (13 млрд 906,3 млн долараў), імпарт вырас на 3,2% (5 млрд 695,8 тыс. долараў). Станоўчае сальда склала 8 млрд 210,5 млн долараў.

Дай Бог, каб Януковіч гэтага не разумеў і далей.

**СЯРГЕЙ КОЎШ**

**ДА ВЕДАМА**

**На момант падпісання нумара ў свет ЦВК Украіны апрацавала 86,78% бюлетэняў.**

**Кіруючая Партыя рэгіёнаў па-ранейшаму лідзіруе, набіраючы 31,85% галасоў. На працягу сутак яе разрыў з апазіцыйнай партыяй «Бацькаўшчына» (24,20%) значна скараціўся.**

**У Раду таксама праходзяць Камуністычная партыя (13,89%), партыя «УДАР» баксёра Віталя Клічко (13,46%), а таксама партыя нацыяналістычнага кірунку «Свабода», якая набрала 9,60% галасоў.**

# "ПЕРАТРАХНУТЫ" СПОРТ

**Другі тыдзень доўжыцца землятрус, які выклікала правальнае выступленне беларускай каманды на Алімпіядзе.**

## ПРЫХАВАНАЕ САМАЕ ПЯКУЧАЕ

Першыя штуршкі адбыліся напрыканцы кастрычніка. Афіцыйныя паведамленні пра Алімпійскі сход, праўда, не далі ўяўлення пра сапраўдны маштаб разборак. Дзяржаўныя медыя абмежаваліся цытаваннем асобных крытычных выказванняў Аляксандра Лукашэнкі. Аднак, як высвятлілася пазней, самае пякучае ад публікі прыхавалі.

Пра звальненне міністра спорта і памочніка прэзідэнта, адказнага за гэтую галіну, інфармацыя была распаўсюджана праз два дні – у нядзелю! Аднак, калі справа для **Алега Качана** ды **Ігара Зайчкова** абмяжуецца адстаўкай, яны, мусіць, будуць надта шчаслівымі. Бо, паводле заяваў Лукашэнкі, некаторым чыноўнікам пагражае турма.

Пікантныя падрабязнасці сталі вядомыя пазней і з іншых крыніц. Акрамя дрэнных спартовых вынікаў, Лукашэнка закідаў Качану і Зайчкову "особняки, которые вы строите за счет спортивной отрасли" ды іншыя рэчы. У прыватнасці, стан стадыёна "Дынама".

– Он (старшыня камітэта дзяржкантроля Аляксандр Якабсон – В.С.) мне как передал фотографии – знаете, мне плохо стало, – абураўся Лукашэнка. – Их, Александр Серафимович, надо всех посадить! Всех негодяев! Потому что это первый объект, который я с солдатами приводил в порядок. Оставили у себя этот рынок. (В зал) Куда деньги дели от рынка? (Якобсону)

Новыя кіраўнікі галіны былі прызначаныя 1 лістапада. Пасаду міністра спорта атрымаў **Аляксандр Шамко**, які дагэтуль працаваў намеснікам міністра… па надзвычайных сітуацыях.

Беларускі спорт, канешне, трапіў у надзвычайную сітуацыю. Але прызначэнне міністрам чалавека зусім з іншай галіны выглядае сумнíўным рашэннем.

Тым больш, што першым віцэ-прэзідэнтам Нацыянальнага алімпійскага камітэта цяпер будзе яшчэ адзін спецыяліст шырокага профілю – былы камандуючы памежнымі войскамі **Ігар Рачкоўскі**. Ён быў адстаўлены з папярэдняй пасады пасля інцыдэнту са шведскім самалётам, які беспераШкодна даляцеў да Мінску, скідаючы па дарозе плюшавых мядзведзікаў.

## МЯНЯЕЦЦА НЕ СІСТЭМА

– Вы несете полную ответственность за развитие белорусского спорта в целом. Провалов здесь не должно быть, – такія задачы паставіў перад новапрызначанымі Лукашэнка. – Необходимо навести порядок в делах и положить конец тем негативным явлениям, о которых мы говорили на олимпийском собрании.

Амаль тое самае Лукашэнка казаў, калі ў свій час прызначаў Качана і Зайчкова. Вынік вядомы. Досыць верагодна, што пасля Алімпіяды-2014 у Сочы на алтар будзе кінута чарговая ахвяра – з ліку толькі што прызначаных. Бо, па сутнасці, мяняецца не сістэма кіравання спортам, а асобы. Ды і тое не ўсе.

На Алімпійскім сходзе Лукашэнка заявіў:

– Прежде всего вина лежит на президенте страны, не только Олимпийского комитета.

Дык, можа, варта было не толькі Качана з Зайчкавым звальняць, але і самому пайсці ў адстаўку? Хаця б з пасады прэзідэнта Нацыянальнага алімпійскага камітэту – для пачатку…

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**




*Вельмі дзіўныя рэчы адбываюцца цяпер на нашым спартыўным п'едэстале*

# КАНІКУЛЫ СТРОГАГА РЭЖЫМУ

**1 лістапада пачынаюцца сямідзённыя асеннія школьныя канікулы. Для дзяцей яны, як звычайна, доўгачаканыя. Настаўнікі ж сталічных школ да канікул рыхтуюцца як да вялікай бітвы.**

Многім з іх даводзіцца літаральна адваёўваць у бацькоў кожнага вучня – прэтэндэнта на наведванне прышкольнага лагера дзённага знаходжання.

Чаму бацькі адмаўляюцца ад так званага арганізаванага вольнага часу сваіх дзяцей? Адкуль увогуле бярэ пачатак "адпачынак пад прымусам"?

Адказы на гэтыя і іншыя пытанні спрабаваў знасці карэспандэнт сеткавай газеты **"Тут і цяпер"**.



*Настаўнікі часта не хочуць разбірацца, чаму ў дзетак такія сумныя твары*

## РЭКАМЕНДАВАНАЯ ПАВІННАСЦЬ

Кожны раз напярэдадні чарговых канікул настаўнікі паведамляюць вучням пра неабходнасць абавязковага запісу ў школьны лагер. У некаторых школах жадаючыя знаходзяцца, прычым у патрэбнай колькасці. Аднак ёсць і такія ўстановы адукацыі, дзе з году ў год адзначаецца недахоп дзяцей, якія не супраць наведваць школу нават у канікулярны час. І тут узнікае няўвязка: дзяржава грошы на ўтрыманне школьнікаў ужо выдаткавала, прадукты на тыя грошы будуць абавязкова набыты, заробак кухарам – налічаны, а вось тых, каго трэба ўтрымліваць, няма. Да таго ж яшчэ неабходна сабраць патрэбную суму (хоць і невялікую), каб даплаціць за "дарэмную" пуцёўку.

Вось і пачынаюць школы выкручвацца як могуць. Напрыклад, некалькі гадоў назад бацькам вучняў прапаноўвалася дзяліць патрэбную суму на клас: грошы збіраліся, аддаваліся класнаму кіраўніку, а ўжо куды потым яны ішлі, нікога асабліва не цікавіла. Пры гэтым дзеці маглі і не наведваць школьны лагер – ніхто не пераймаўся на гэты конт.

А сёння патрэбны ўжо "жывыя" душы школьнікаў, бо калі раптам прыедзе якая праверка, бяды не абярэшся. Вось і страхуюцца педагогі, выдумляючы ўсё новыя і новыя падыходы для заманьвання сваіх падапечных у школу на канікулах. Няхай не ўвесь клас, няхай вучні па чарзе ходзяць, але хто-небудзь павінен быць абавязкова.

Дарэчы, для рэгіёнаў краіны гэтае пытанне наогул неактуальнае, паколькі сельскія школы і ўстановы адукацыі райцэнтраў часта сапраўды выступаюць у якасці адпачынкавых цэнтраў. Дзятва імкнецца туды, нават і ў час канікул, толькі па адной простай прычыне – малым цікава. І менавіта пра НЕЦІКАВАСЦЬ гавораць многія мінскія школьнікі, абгрунтоўваючы сваё нежаданне наведваць прышкольныя лагеры на канікулах.

> "Мы там нічога не робім, сядзім у кабінетах, размаўляем адно з адным, і ўсё. У кіно хіба што адзін раз зводзяць, у футбол можам пагуляць... А на канікулах жа і паспаць хочацца даўжэй...".

Між тым самі педагогі не называюць свае дзеянні прымусам. Паводле іх слоў, яны спрабуюць дамовіцца: спачатку з дзецьмі, а потым – з бацькамі, пры гэтым часта выкарыстоўваючы такі недарэчны ментарскі тон і забываючыся, што ў выпадку з апошнімі маюць справу з дарослымі людзьмі, у кожнага з якіх – сваё меркаванне па многіх пытаннях. Калі дзеці адмаўляюцца, а бацькі не вядуцца на прывабнае "дзеці ж у лагеры змогуць паесці тры разы ў дзень, прычым зусім нядорага", настаўнікі звяртаюцца да апошняга аргумента, які, на іх думку, павінен спрацаваць на ўсе сто. "Ёсць такое слова – "трэба"! – грозна вымаўляюць яны і чакаюць адпаведнай рэакцыі.

Бацькі ж у сваю чаргу спрабуюць высвятляць у класных кіраўнікоў, хто дае такую ўстаноўку – "усе ў лагер!"? Педагогі ківаюць на адміністрацыю, тая спасылаецца на адпаведныя інструкцыі, што "спускаюцца" з раённых упраўленняў адукацыі; ну а ўжо работнікі гэтых устаноў прыкрываюцца, як коўдрай, рэкамендацыямі Міністэрства адукацыі. А яно, як заўсёды, "нічога такога не ведае".

Напрыклад, яшчэ ў мінулым навучальным годзе ў "Рэкамендацыях па арганізацыі выхаваўчай работы ва ўстановах агульнай сярэдняй адукацыі ў перыяд асенніх канікул", што змяшчаюцца на сайце беларускага Мінадукацыі, распавядалася аб тым, што "сущностью досуга учащихся в каникулярное время является их творческое поведение в свободной для выбора рода занятий и степени активности среде, обусловленное потребностями и интересами, направляемое, но не навязываемое педагогами и родителями". Акрамя таго, агаворвалася:

"... Досуг учащихся в каникулярное время должен быть многообразным, включать различные формы образовательной, творческой, спортивной, трудовой деятельности, удовлетворяющей самые разные потребности и интересы детей...

І адзначалася: "...Планируя работу с учащимися и их родителями на каникулах, чрезвычайно важно учесть их пожелания и запросы...".

У адпаведных рэкамендацыях 2012 года гэтая "лірыка" адсутнічае, але ў адным з варыянтаў інструкцый па арганізацыі адпачынку дзяцей у час асенніх канікул, што таксама змешчаны на згаданым вышэй сайце, ёсць такія прыгожыя радкі: "Для каждого ребенка каникулы являются удивительной и долгожданной порой года. И главная причина этого ожидания заключается в чувстве свободы, т.е. в осознании того факта, что свое личное время ребенок самостоятельно наполнит важными для него делами, открытиями, встречами, впечатлениями".

> Як гэта – не хоча?! Тут не можа быць ніякага "хачу – не хачу", у гэтай сітуацыі ёсць толькі слова "трэба"!

Педагогам краіны таксама рэкамендуецца зарганізаваць усіх "несовершеннолетних, состоящих на учете в инспекции по делам несовершеннолетних, находящихся в социально опасном положении", ладзіць для дзяцей экскурсіі, паходы ў музеі, наведванне выстаў і г д. Нязменнай застаецца і парада аб надзвычайнай важнасці ўліку пажаданняў і запытаў вучняў і іх бацькоў. А вось пра абавязковае наведванне прышкольнага лагера ўсімі дзецьмі не сказана ані слова.

## ПАТРЭБА, НЕ ПАТРЭБА, А РАБІ, БО ТРЭБА!

Пасля азнаямлення з міністэрскімі рэкамендацыямі асабіста я зрабіла вельмі простую выснову: ёсць патрэба

# Ў БЕЛАРУСКІХ ШКОЛАХ

ў лагеры – лагеру быць, няма патрэбы – няма і праблемы. Але ж гэта логіка такая. А вось рэчаіснасць, у якой жывуць сталічныя педагогі, здаецца, з логікай ніяк не судакранаецца. Інакш якім чынам можна патлумачыць нядаўні выпадак, пра які расказала мне мая сяброўка Ірына, маці пяцікласніка.

– Я толькі што вярнулася з бацькоўскага сходу, – пачала яна, патэлефанаваўшы. – Не паверыш, але сёння ўпершыню адчула сябе нейкім ізгоем у асяроддзі аднадумцаў – бацькоў аднакласнікаў майго сына. У нейкі момант мне нават падалося, што яшчэ крыху – і мяне пачнуць лінчаваць... І ўсё толькі таму, што на пытанне настаўніцы, чаму мой сын не запісаўся ў школьны лагер, я адказала: "Ён проста не хоча яго наведваць. Яму там нецікава". Што тут пачалося! Твар настаўніцы адразу набыў чырвоны колер, шчырае здзіўленне ў яе вачах праз пару секунд змянілася гнеўным позіркам.

"Як гэта – не хоча?! Тут не можа быць ніякага "хачу – не хачу", у гэтай сітуацыі ёсць толькі слова "трэба"! Та-а-ак, я разумею, гэта пазіцыя не дзіцяці, а сям'і... Вы не разумееце: лагер на канікулах дзеці павінны будуць наведваць з 5 па 9 клас. Гэта абавязкова. Гэта неабходнасць такая. Так трэба!"

"Каму трэба?" – запыталася я, але адказу не пачула.

"Ушколе ёсць пэўныя правілы, якіх трэба прытрымлівацца ўсім," – не супакойвалася педагог. – Дзеці павінны не спазняцца на ўрокі, а ваш сын хіба не спазняецца? А на ўроках ён заўсёды правільна сябе паводзіць? Значыць, калі ён хоча смяяцца і перашкаджаць весці заняткі, то яму гэта павінна дазваляцца?! Калі вы хочаце рабіць тое, што хочаце, то, магчыма, варта пашукаць іншую навучальную ўстанову, прыватную, дзе вы будзеце плаціць грошы і рабіць усё, што захочаце!..".

Тут на дапамогу настаўніцы прыйшлі астатнія бацькі, якія – я так яскрава гэта адчувала – ужо занеслі свой вялізны "групавы" кулак над маёй галавой і толькі чакалі зручнага моманту, каб апусціць яго.

"Не слухайце яе, Мар'я Іванаўна, гэта пазіцыя аднаго чалавека. Запісвайце маю Наташу (Лену, Сашу), яны сходзяць і два дні запар, не пераламаюцца. Абыдземся і без Лёшы (майго сына)".

Справа ў тым, што з кожнага класа, па словах настаўніцы, неабходна "забяспечыць" яўку ў лагер 20 чалавек. Каб не "абцяжарваць" дзяцей, наша класная прапанавала такі варыянт: няхай штодзень на канікулах у школу прыходзяць па чатыры чалавекі. Грошы на лагер будуць узяты з касы бацькоўскага камітэта. Хітрасць заключаецца ў тым, што адно дзіця наведае лагер толькі адзін дзень.

> «...Мы, настаўнікі, хіба павінны вашых дзяцей яшчэ і забаўляць? У нас ведаеце, колькі работы, акрамя гэтага лагера? Калі вам трэба, звяртайцеся ў забаўляльныя агенцтвы і наймайце клоўнаў!..»

Прызнаюся, мой сын на працягу трох з паловай гадоў (1–4 класы) мужна спрабаваў наведваць лагер на канікулах. Папярэдняя настаўніца таксама заманьвала абяцаннем цікавых мерапрыемстваў і гульняў з сябрамі. Аднак то сябры не прыходзілі, то мерапрыемствы "не спяшаліся ладзіцца", а ў першым класе ўвогуле ацяпленне адключалі, калі дзеці знаходзіліся ў школе – эканомілі. І ў выніку Лёша катэгарычна адмовіўся так "адпачываць". Пра гэта ён прама сказаў у мінулым годзе настаўніцы, а тая прыгразіла: "Тады летам цэлы месяц хадзіць будзеш!"

Я і да новай класнай спрабавала данесці, што маё дзіця хадзіла б з радасцю, калі б яму было цікава. А адказ пачула неверагодны:

"Яму нецікава?! А калі і так, то мы, настаўнікі, хіба павінны вашых дзяцей яшчэ і забаўляць? У нас ведаеце, колькі работы, акрамя гэтага лагера? Калі вам трэба, звяртайцеся ў забаўляльныя агенцтвы і наймайце клоўнаў!..".

А я лічу, што адзінаццацігадовае дзіця мае права само вырашаць, наведваць яму прышкольны лагер ці не. Хто сказаў, што яму няма чым будзе займацца дома?! Чаму лічыцца, што ўсе дзеці сядзяць на канікулах каля тэлевізара і за камп'ютарам? Можа, у тых, хто зрабіў такія высновы, сапраўды праблемныя дзеці, дык хай яны іх і афармляюць у прышкольныя лагеры.

Цікава яшчэ вось што: калі я праз 15 хвілін настаўніцкага спічу запыталася, што было б, калі б мы з'ехалі з горада на час канікул, то пачула ўздых палёгкі: "Тады іншая справа". Вось як, аказваецца! Можна проста схлусіць, і ніхто не будзе правяраць, з'ехала дзіця з горада ці не. А скажаш праўду – нажывеш праблем сабе і дзіцяці...

Напрыканцы сходу я яшчэ больш здзівілася, пачуўшы ад настаўніцы наступнае: "Вы ж зразумейце, – сказала яна. – Ваш сын адмовіўся, а іншыя дзеці, гледзячы на яго, таксама захочуць адмовіцца. І што мне тады рабіць? Чаму вашаму можна, а ім нельга? Няхай тады ўжо кажа ўсім, што ён спартыўны лагер наведвае...

Ведаеш, так мне крыўдна стала... Адчувала сябе нейкай школьніцай, якая не разумее сваёй віны, а яе ўшчуваюць за нешта незразумелае".




*Мо, бывай такая школа!?*

## У "ТЭАТРЫ АБСУРДУ" АНШЛАГ

Яшчэ адна мая знаёмая таксама ў свой час сутыкнулася з такой жа праблемай. Але класны кіраўнік яе дзіцяці спрабавала адстойваць інтарэсы сваіх вучняў – усяляк тлумачыла адміністрацыі навучальнай установы, што дзецям неабходна адпачываць дома, а не ў школе. Адміністрацыя не пагадзілася з такім меркаваннем, і праз год настаўніца мусіла звольніцца. І горш ёй, заўважу, не стала. Гэта школа страціла добрага педагога, а вучні – выдатнага класнага кіраўніка. Праблема ж засталася. І яшчэ не раз бацькі вучняў той школы спрачаліся з педагогамі наконт сваёй патрэбы ў арганізацыі прышкольнага лагера для дзяцей...

Яму нецікава?! А калі і так, то мы, настаўнікі, хіба павінны вашых дзяцей яшчэ і забаўляць? У нас ведаеце, колькі работы, акрамя гэтага лагера? Калі вам трэба, звяртайцеся ў забаўляльныя агенцтвы і наймайце клоўнаў!..

Асабіста я, калі мой сын-шасцікласнік запытаўся, навошта яму наведваць школьны лагер, калі ён не хоча, надоўга задумалася. Сапраўды, навошта? Ён хлопчык адказны, самастойны, можа цалкам спланаваць свой дзень. Хоча застацца дома – калі ласка, я не бачу ніякіх перашкод. Аднак класны кіраўнік разважала інакш. Яна таксама гаварыла мне пра неабходнасць рабіць тое, што "ТРЭБА". А яшчэ распавядала пра танную ежу, якой дзіця больш нідзе і ніколі не паспытае, і аб прэміях настаўнікаў, якіх яны пазбаўляцца ў выпадку няяўкі дзяцей у школьным лагеры... І тут я зрабіла адкрыццё: вось той аргумент, які ўсё апраўдае – прэмія! Адзіны правільны аргумент на карысць наведвання лагера – каб не напаткала настаўнікаў пакаранне ў выглядзе вымовы і пазбаўлення прэміі…

**АЛІНА ГВОЗДЗІКАВА**

# КАНЕЦ ЭПОХІ ВЯЛІКАГА БАЛЕТА?

**За апошнія дні Народны артыст СССР Валянцін Елізар'еў адказаў на сотні званкоў - ад жадаючых павіншаваць яго з 65-годдзем не было адбою!**

Латушка прынёс кветкі, а Мясніковіч даслаў падзяку

Міністр культуры Павел Латушка асабіста ўшанаваў знакамітага харэографа. Урачыстая цырымонія адбылася 30 кастрычніка ў Акадэміі музыкі.

«Было вельмі кранальна і душэўна, нягледзячы на ўрачыстае становішча", – распавёў Валянцін Мікалаевіч. Сказаць добрыя словы вядомаму балетмайстру прыйшлі шматлікія супрацоўнікі ВНУ.

Дарэчы, у Акадэміі музыкі Валянцін Елізар'еў выкладае ўжо 17 гадоў. У бытнасць дырэктарам тэатра ён працаваў тут на паўстаўкі, цяпер – на поўную, вядзе заняткі адразу на двух курсах.

Прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Мясніковіч перадаў Елізар'еву «падзяку за шматгадовую плённую працу». Яе ўручыў Валянціну Мікалаевічу міністр культуры.

«Падзяка ў рамачцы - як дыплом», – пахваліўся Елізар'еў.

## ПРЫВІТАННЕ З ЛЮБІМАГА ТЭАТРА

У Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета юбілею Валянціна Елізар'ева чамусьці не заўважылі. У гэты вечар на сцэне тэатра ідзе не балет у пастаноўцы Валянціна Мікалаевіча, якім маглі б яго павіншаваць, а заяўлены «Вечар рамансаў».

Кіраўніцтва тэатра спасылаецца на тое, што Елізар'еў, маўляў, «у нас ужо не працуе, а балетная трупа як раз знаходзіцца на гастролях».

Адгаворка здаецца непераканаўчай, таму што зусім нядаўна мастацкі кіраўнік балета Юрый Траян горда заяўляў, што цяпер, маўляў, балетная трупа Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета павялічылася ўдвая і зараз мае два склады – асноўны і выязны.

Зрэшты, дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што віншавальная запіска з'явілася на сайце тэатра.

## КНІГА - ЛЕПШЫ ПАДАРУНАК

За дзень да юбілею ў мінскім выдавецтве «Чатыры чвэрці» надрукавалі першую дзясятку сігнальных асобнікаў кнігі «Валянцін Елізар'еў – мастак і чалавек», якую напісала журналістка Ірына Мільто.

«Ірына ўсё жыццё прапрацавала на радыё, – распавядае Елізар'еў. - Пачынаючы з 1973 года, раз ці два ў год брала ў мяне інтэрв'ю. Гэта ўсё не выкінулася, а сабралася і атрымаўся дакументальны твор: якім я быў, як развіваўся, і што казаў на працягу 30 гадоў...»

" Калі я ў канцы 2008 года пачала працаваць над кнігай, Елізар'еў быў па-ранейшаму «на кані» – узначальваў Нацыянальны балет Беларусі і як мастацкі кіраўнік, і як дырэктар, арганізоўваў замежныя гастролі, працаваў над новай пастаноўкай - балетам на музыку беларускага кампазітара Кузняцова «Клеапатра», актыўна ўдзельнічаў у пытаннях рэканструкцыі і капітальнага рамонту Беларускага тэатра оперы і балета, – распавядае журналістка. –...Я пасля доўгага перапынку прыйшла да яго ў працоўны кабінет у тэатры, дзе кіпела праца, ён быў у віры творчых і арганізацыйных падзей ... Немагчыма было і ўявіць, што літаральна праз два месяцы адбудзецца карэнны, драматычны перапалом у біяграфіі і лёсе паспяховага Майстра і кіраўніка – яго вымушаны сыход з любімага тэатра, і мне такім чынам давядзецца падводзіць вынікі значнай часткі творчага шляху Елізар'ева... »

Пасляслоўе да кнігі пісала доктар мастацтвазнаўства, прафесар, заслужаны дзеяч мастацтваў, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Юлія Чурко.

"Не сакрэт, што сёння існуе і такое меркаванне: што нельга прадаць, то не мастацтва. Спрэчкі з пераменным поспехам вядуцца не першы год. А залаты век у балеце ў гэты час сыходзіць. Не відаць нешта і срэбнага - балетмайстрам з сусветным імем, стваральнікам вялікага балета, замены пакуль няма, – кажа Юлія Міхайлаўна. – У тэатр, як і ўсюды, прыйшоў камерцыйны пачатак. Хто ж цяпер павінен кіраваць, стаяць на чале, быць ідэолагам калектыву - аўтар-прафесіянал, дырэктар, фінансіст, савет алігархаў? Спектакль - гэта тавар, паслуга насельніцтву або духоўная каштоўнасць? Да няшчасця для сябе і аматараў прыгожага мастацтва Елізар'еў трапіў у гэтую «рэфарматарскую мясарубку». Яго аргументы з нагоды сыходу з тэатра можна зразумець. Хвалюе іншае: няўжо ў нас у краіне завяршылася эпоха Вялікага балета? »

**МАРЫНА МІТ**



**Заснавальнік** ТАА "Тут і цяпер" **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактор** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 23:45 1.11.12
Тыраж 299 экзэмпляраў